Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 5. Вільня, Нядзеля, 7 Лютага 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Завальная вул. 7. — (Wilno, ulica Zawalna 7).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.

Газэта выходзіць раз у тыдзень.

Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.

Перамена адрэсу 30 гр.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.



## Беларусы і польская зямельная „рэформа“

(Працяг).

Дух шавінізму і ахвота пазбавіць селяніна не паляка (украінца, беларуса. літоўца) магчымасьці атрымаць кавалак зямлі зайшоў так далёка, што няма пэўнасьці ў тым, ці атрымае беларус яго і з царкоўнай, або манастырскай зямлі, хоць яна і зьяўляецца зямлёю парахвіі (сялян), а не сьвяшчэніка.

Хочучы замацаваць за нашым сялянствам (праваслаўнай яго часткай; каталіцкая беларуская люднасьць касцельную павінна атрымаць) магчымасьць атрымаць кавалак царкоўнай зямлі, беларускія і украінскія паслы былі дабіўшыся таго, што Соймам быў прыняты п. 4 § 52 у наступнай рэдакцыі: „Набыўцамі зямлі выдзеленай з маёнткаў так званае мёртвае рукі (царкоўнай, касьцельнай, манастырскай) могуць быць *выключна* вызнаўцы тае самае веры, касьцёла (разумей і царквы) якому належыла зямля„. Сэнат слова „выключна“ замяніў словам „*пераважна*“. Сойм папраўку прыняў. Відаць польская большасьць Соймавая спалохалася, што надта шмат даець меншасьцям, абдумалася і направілася.

Гэта зроблена дзеля таго, каб і тут можна было, напрыклад, зямлю праваслаўнае царквы аддаць паляку—каталіку, і зусім ня меўся на воку беларус каталік ці літвін.

Вот яна знамянітая экспансыя польскасьці на ўсход, аб якой казаў у Сойме павадыр пястоўцаў—пасол Вітас і якую падтрымліваў № 3 на чале с паслом Панятоўскім — шэфам асадніцтва на нашых землях.

У § 53 Сойм і Сэнат палажылі крыж на надзеях селяніна беларуса, украінца і літоўца скарыстаць з гэтага закону. Згодна з гэтым параграфам атрымаюць зямлю польскія жаўнеры, іх удовы і сіроты, рээмігранты, якія прымушаны былі выехаць з другіх дзяржаў.

Паследнія словы маюць на воку тых палякоў, якія выселены з Расеі, або з Гэрманіі. Ну, а як беларусаў у польскім войску бадай заусім ня было і рээмігрантаў так-жа няма, дык і на зямлю спадзявацца трудна.

Наш селянін будзе за тое мець кепскую прыемнасьць плаціць падаткі, з якіх новыя асаднікі будуць атрымліваць запамогу да 2500 злотых на гаспадарку.

Прачытаўшы гэныя радкі, наш селянін палезе з пальцамі ў чупрыну і скажа: Вот табе і зямельная рэформа! Вот табе і нашыя паслы!

Калі мы друкуем гэтыя радкі, дык ня дзеля таго, каб навясьці жах на свой народ, а дзеля таго, каб ён загадзя бачыў небясьпеку, якая яму пагражае і падумаў з сваімі пасламі, як адхіліць яе ад сябе. А што датычыць паслоў беларусаў, дык яны клалі ўсе сілы, не баючыся нічога, каб дабіцца зямлі свайму народу. Калі не дабіліся таго, чаго хацелі, дык толькі дзеля таго, што іх мала ў Сойме, а што іх там мала, тут вінаваты тыя сяляне, якія ў часе выбараў аддалі свае галасы польскім партыям.

З усяго сказанага відаць, што справа з зямлёю стаіць кепска. Можна сьмела сказать, што калі і дастане наш селянін зямлі, то надта мала.

Перад нашым народам паўстае пытаньне: што-ж рабіць? Мала сказаць, што закон кепскі. Трэба падумаць і аб тым, як з гэтага, хоць і кепскага для нас закону, мець найбольш карысьці, атрымаць хоць часьць таго, што сапраўды нам належыць поўнасьцью.

Што-ж рабіць, каб атрымаць найбольш зямлі?

На гэта можна даць такі адказ. Сяляне беларусы павінны чытаць сваю беларускую сялянскую газэту, з якое яны даведаюцца, якія маёнткі ў кожным годзе будуць парцэлявацца. Даведаўшыся аб гэтым, павінны складаць дэкларацыі павятовым зямельным камісарам аб надзяленьні іх зямлёю з падлягаючага парцэляцыі маёнтку, згаджаючыся нават перайсьці на хутары, але пад варункам дабаўкі зямлі.

Гэта трэба рабіць загадзя: не тады сабак карміць, калі на паляваньне ехаць. Злажыўшы дэкларацыі, павядамляць сваіх паслоў аб гэтым, прылажыўшы да паведамленьня сьпісок аб тым, хто сколькі мае свае зямлі, ці нічога ня мае. Гэта трэба на тое, каб паслы маглі падтрымаць Вас перад Міністэрствам Зямельных рэформаў.

Трэба памятаць тое, што мы даб'ёмся свайго толькі тады, калі беларускі народ будзе с сваімі беларускімі пасламі, а беларусы паслы с беларускім народам.

Зямельная рэформа будзе праводзіцца, паводле закону, на працягу 10 гадоў. Значыцца, магчыма, што перад намі стаяць 10 гадоў цяжкае барацьбы за зямлю. Гэтага мы павінны не забываць і каб вытрымаць гэтую барацьбу з карысьцяй дла беларуса, павінны арганізавацца ў свой Беларускі Сялянскі Саюз. Калі мы будзем сарганізованы, наш голас будзе моцны і з беларусамі будуць лічыцца і Польскі Сойм і польскі народ. А чым больш будуць з намі лічыцца, тым больш мы скарыстаемо з зямельнае рэформы.

**В. Рагуля**, Пасол Сойму.

## Гіпатэзы аб немцах і беларусах з прадвякоў.

Калі нямецкі мілітарызм быў пераможаны ў апошнюю ўсесьветную вайну, нямецкія вучоныя ізноў узяліся за навуковую працу, у якой даказваюць, што немцы, якія як ведама, у старыя часы называліся Люгерамі, з прадвякоў былі нятолькі культуртрэгерамі,*) але і пранародамі. Дзеля гэтай мэты ў Дармштаце выходзіць журнал нямецкіх вучоных „Культуры Зямлі“, у якім гаворыцца, што Люгеры яшчэ перад пачаткам Эгіпскай культуры праніклі да Эгіпту, абплылі Афрыку, адкрылі Бразылію і Паўночную Амэрыку, што іх продкі залажылі Эгіпскую, Крэтскую і Мыкенскую культуры. Люгеры пранікалі да паўночных мораў і абплывалі цэлую паўночную Азію. Яны выдумалі колы і вазы, залажылі астраномію 10.000 гадоў перад бабілёнянамі, а яшчэ гадоў 15.000 таму назад ведалі, што зямля круглая і г. д.

Повадам для такога падняцьця нямецкага духу паслужылі надпісы на скалах паміж Гютэнборгам і Бергенам, абхапляючыя гісторыю больш як за 20.000 гадоў таму назад. Нямецкаму прафэсару Францу фон-Вэндрыну ўдалося цяпер прачытаць гэтыя надпісы і надрукаваць.

У адным з гэтых надпісаў гаворыцца, што тамашні кароль Люгераў, у часе голаду, пашоў на Усход аж да Прыпецкіх балот, знашоў там „зямлю, шмат каней“, якую назваў „зямлёю конскага раю“. Люгеры аселі ў гэтым „конскім раі“, займаліся земляробствам і гадоўляй жывёлы, а асабліва каней, якіх пасылалі ў Скандынавію. На Прыпеці яны пражылі 17.000 гадоў і былі выгнаны адтуль славянамі зноў на Захад.

Немцы ўсяму гэтаму вераць, але вучоныя другіх зямель адносяцца да гэтага адкрыцьця дужа недаверчыва.

Калі прызнаць, што так было, дык трэба мець на ўвазе, што немцы, пражыўшы так доўга на адным мейсцы і ўдастатку, павінны былі зрабіцца дужым і моцным народам, выгнаць які было ня лёгка. Якія славяне маглі выгнаць іх? Ясна, што ніхто іншы, як суседзі немцаў, жыўшыя на Усход ад іх — беларусы, якія былі яшчэ дужэйшыя і больш заборчыя, чым немцы. Яны, прагнаўшы немцаў, самі аселі над Прыпецьцю і цяпер там жывуць.

Гісторыя сьведчыць, што шмат баёўных і заборных народаў, як Пэрсы, Грэкі, Рымляне, Скандынавы і інш., пасьля напружаньня сіл, трацілі заборчы характар і ставаліся надта мірнымі. Аднак пасьля шмат вякоў адпачынку жыцьцёвая энэргія і дзейнасьць зноў вярочаліся да іх. Тое самае робіцца і з намі-беларусамі.

Прага, 10.I. 1926 г.

Праф. **М. Вяршынін**.

*] Насіцелямі культуры.

## З Сойму.

**Дэклярацыя Беларускага Пасольскага Клюбу ў справе Польска-Расейскай канвэнцыі кансулярнай прынятай Соймам 3 лютага 1926г., адчытаная з Сойм. трыбуны паслом Рагуляй.**

Ад імя Беларускага Пасольскага Клюбу, як праўнага прадстаўніка Беларускага Народу Заходне-Беларускіх зямель у справе ратыфікацыі Соймам канвэнцыі кансулярнай між Польшчай і Саюзам Радавых Сацыялістычных Рэспублік, падпісанай праз прадстаўнікаў Маскоўскага і Варшаўскага ўраду ў Маскве 18 ліпня 1924 г. і зложанай у Сойм дзеля ратыфікацыі—заяўляю наступнае:

1) Дзеля таго, што Беларускі Народ імкнецца да незалежнасьці, а так-жа

Дзеля таго, адносна земляў Беларускіх не застасавана прынцыпу самаазначэньня народаў,

Мы праўныя прадстаўнікі гэтых зямель і Народу Беларускага ў Польшчы, якая тасуецца да нас нябывалы ўціск культуральны, палітычны і эканамічны, на моцы паверaных нам мандатаў праз нашых выбаршчыкаў, выражаючы іх волю і імкненьне да незалежнасьці і свабоднага кіраваньня сваім лёсам, ня раз ужо высказываліся з гэтай Соймавай трыбуны проціў падзелу земляў Беларускіх Рыжскім Трактатам, бо ён пярэчыць прынцыпу самаазначэньня народаў.

Кансулярная Канвэнцыя, знаходзячаяся сяньня на парадку дня Сойму, ёсьць вынікам дагавору ў Рызе, бо яна абаснована і прадбачаная ў XXI арт. гэнага дагавору.

Яна ёсьць вынікам палітыкі ўрадаў Маскоўскага і Польскага, касуючай незалежніцкія імкненьні Беларускага Народу.

Дзеля якіх-бы прычын гэта ня было роблена, як з аднаго так і з другога боку—Масквы ці Варшавы, якімі-б паглядамі гэты чын ня быў тлумачаны, незапярэчаным фактам ёсьць, што гэтая канвэнцыя зьяўляецца новым актам, які перакрэсьлівае імкненьні Беларускага Народу да незалежнасьці і злучэньня ўсіх этнаграфічна-Беларускіх зямель у адну цэласьць.

Няма сілы, якая б імкненьні Беларускага Народу да злученьня і вольнага жыцьця патрапіла прыдушыць і стараньні яго ў гэтым кірунку спыніць. Дзеля гэтага заяўляем, што галасаваць будзем проці ратыфікацыі Канвэнцыі, прапануючы перайсьці над уставай да парадку дзеннага.

---

# Гаспадарчы аддзел.

## Хворасьць польскіх фінансаў.

Здаровыя фінансы ў дзяржаўным арганізме—гэта тое самае, што здаровая кроў у чалавечым арганізме. Па здаровай кпыві пазнаецца здароўе чалавека, таксама па здаровых фінансах пазнаюць здароўе дзяржавы.

Польскія фінансы хворыя. Гэта хворасьць пачалася не ад сянняшняга дня — яна цягнецца ад самага пачатку існаваньня Польшчы. Польская марка—таксама як і цяпер злоты—ніколі ня мела сталай вартасьці і ўсё валілася ўніз. Але тагды наракалі на тое, што быццам польская марка была моцна зьвязана з нямецкай і што нямецкая марка лятучы ўніз, цягнула за сабой і польскую...

Тымчасам прычыны былі іншыя і бадай што тыя самыя, якія паніжаюць і цяпер польскі злоты, а гэтымі прычынамі будуць: 1) бязмерныя дзяржаўныя выдаткі і 2) эканамічная бяздарнасьць польскіх правячых кругоў.

Можа нашы чытачы прыпамінаюць, як гэта розныя Падарэўскія, Скірмунты і другія паны будучы міністрамі куплялі заграніцай усё, што ім спадабалася пачынаючы ад амэрыканскіх паравозаў, а канчаючы на муцэ, сукне і жаўнерскіх ботах. Тыя паны не глядзелі, ці цана падходная, ці не — раз яны мелі ўладу і рэчы ім спадабаліся, яны куплялі, а па грошы адсылалі ў дзяржаўны польскі скарб. Скарб мусіў плаціць, бо ня было іншага выхаду.

На польскі скарб глядзелі і глядзяць усе палякі, як на дойную карову, каторую даі скольки хочаш. Ня раз здараецца чуць гутаркі: „Cóż, ja dla ojczyzny krew przelewałem, to mam prawo wymagać od niej!“ Дык усякі чыноўнік уважае скарбовыя грошы за свае і хацеўбы прымазацца да гэтага скарбовага пірага.

А як прымажацца адзін, дык цягне другога, бо і той працаваў для „ojczyzny“ і такім парадкам паўстала ў Польшчы вялізарная хмара чыноўнікаў, якія дамагаюцца ад „ojczyzny“ на хлеб і да хлеба...

Каб паказаць сколькі людзей ў Польшчы жыве с дзяржаўнага скарбу, возьмем лічбы з 1925 году. Гэтыя лічбы ўзяты з бюджэтнай урадавай справаздачы, дык мусіць заслужваюць на поўную веру; возьмем глаўнейшыя:

| | |
|---|---|
| Войска сухапутнага | 298.366 |
| „ марскога | 2.440 |
| Ваяводствы і стараствы | 7.174 |
| Паліцыі (унутранай і пагранічнай) | 66.679 |
| Чыноўнікаў у мін. скарбу | 44.960 |
| „ „ справядлівасьці | 24.422 |
| Пошта і тэлеграф | 32.096 |
| Розных вучыцялёў і чыноўнікаў прасьв. | 80.673 |
| Жалезныя дарогі | 176.639 |
| Розныя манаполі | 12.684 |
| Усіх іншых чыноўнікаў | 27.413 |
| Разам | 773.546 |

Значыць, з дзяржаўнага скарбу жыве аж столькі чыноўнікаў. Але трэба дапусьціць, што кожны чыноўнік мае жонку і хоць двое дзяцей, дык разам 4 душы, памножыўшы 773.546 на 4 мы атрымаем: 3.093.184 душы, каторыя кормяцца з народных грошай!

Але гэта яшчэ ня ўсё. Ёсьць яшчэ выслужаныя чыноўнікі, якія дастаюць „эмэрытуру“. Дык вот такіх

| | |
|---|---|
| эмэрытаў цывільных ёсьць | 41.177 |
| „ вайсковых „ | 19.237 |
| інвалідаў | 136.000 |
| удоваў і сіротаў па інвалідах | 131 000 |
| Разам | 327.414 |

Гэтую суму дадаючы да першае выйдзе лічба: **3.420.5?8** душ, жывучых на кошт скарбу! Гэта выпадае, што кожная восьмая душа жывіцца на дзяржаўны кошт! Туды мы яшчэ ня ўлічылі розных „самажондовых“ душ, як войтаў, пісароў, пісарчукоў, розных канцэлістаў, фэльчароў, дахтароў (конскіх і людзкіх), „дроговых“ інжынераў, іхных жонак і дзяцей—дык паўстане яшчэ большая сума! А бяруць яны даволі многа, часам болей як урадавыя чыноўнікі. Такі нп. фэльчар бярэ 248 зл. у месяц, апроч гэтага дзярэць з людзей сколькі, а палічыць войтаў і пісароў, якія таксама бяруць ладныя сумы! Дык сапраўды ўзнімаецца пытаньне: а хто гэтыя ўсе душы пракорміць? А ня інакш, як працоўны народ, ды ня толькі трэба пракарміць, але яшчэ і адзець і даць на забавы. Вот стуль і падаткі і выдаткі вялікія.

Але ёсьць яшчэ вялікая амылка ў самым укладаньні польскага бюджэту.

Усюды, па ўсім сьвеце, укладаючы бюджэт, робяць так: спачатку падлічаюць сколькі можна сьцягнуць з дзяржавы даходу, а тагды ўжо глядзяць, сколькі і на што можна выдаць. Але ў Польшчы робіцца наадварот: спачатпу падлічаюць, сколькі трэба выдаць, а тагды ўжо дзяруць з грамадзянства, сколькі ўдасца дзерці. Пры гэтым заўсяды крыецца ў польскім бюджэце рускае „авось“ — ануж удасца зьдзёрці і пакрыць усе выдаткі! Тымчасам гэтае „ануж“ даволі зводнае — як не дзяры, усё не хватае.

Як мы відзелі, ёсьць на каго выдаваць, дык вялікія і выдаткі ў Польшчы! Калі падрахаваць усе выдаткі польскіх грамадзян і злажыць іх у адно: выдаткі дзяржаўныя, самаўрадавыя і публічныя, то выйдзе аграмадная сума: **5 мільярдаў зл.** Дзяржаўны бюджэт выносіць каля 2 мільярдаў зл., самаўрадавы каля 1½ мільярда зл. і іншыя публічныя зборы, як каса хворых, страхоўка і г. д. каля 1½ мільярда злотых!

Калі мы прыгледзімся да гэтых лічбаў, дык валасы ўстаюць на галаве, аднак польскага грамадзяніна прымушаюць: плаці!

Але і гэтыя лічбы здаецца будуць яшчэ малыя, бо трэба ведаць, што ў 1924 годзе польскі ўрад выдаў 2 мільярды зл., а ў 1925 нешта каля 2½ мільярдаў.

Гэта будзе расход. А які даход? Даходу было ў 1925 годзе ўсяго 1 мільярд 132 мільёны зл.! (З гэтага даходу манаполі далі 395 мільёнаў зл.). Значыць даход пакрыў ледзь палавіну расходу!

Быўшы міністар Грабскі пацяшаў Сойм, што ёсьць „zaległych“ падаткаў 484 мільёнаў злотых, а пазычкі якія раздаў „Bank Gospodarstwa Krajowego“ 204 мільёны зл. Тут трэба сказаць, што мусіць гэтыя „zaległości“ не асталіся ў мужыкоў, з якіх дзярлі не шкадуючы, а асталіся яны ў паноў, для якіх заўсёды знайдзецца палёгка.

Трэба ведаць, што „Bank Gospodarstwa Krajowego“—гэта банк, каторы пазычае грошы для фабрыкантаў. Значыць, гэты банк раздаў аж 204 мільёнаў зл. фабрыкантам і тыя гэтых грошы не вярнулі. Дык з гэтай пацехі Грабскага няма ніякай карысьці, бо ўсё адно тых даўгоў і „zaległości“ ніхто не аддае.

Вось гэтае шастаньне народнымі грашмі і вялікія выдаткі будуць першай і галоўнай прычынай хворасьці польскіх фінансаў. Да гэтага далучылася яшчэ бяздарная гандлёвая палітыка польскіх правячых кругоў, давёўшая да эканамічнай вайны з Нямеччынай і да вялікага ўвозу заграчічных тавараў—усё гэта прывяло да таго катастрафічнага палажэньня Польшчы, якое мы відзім сягоньня, і разам да спадку злотага.

Пры такіх вялікіх падатках народ зьбяднеў, а ўсякі ведае, што бедны селянін ня купіць фабрычнага матар'ялу — затым і сталі фабрыкі. А з астаноўкай фабрык — армія безработных пачала павялічывацца з кожным тыднем. Сяньня маем больш за 350 тыс. зарэестраваных безработных, а не зарэестраваных і палічыць трудна. Разам з арміяй безработных павялічваецца і армія тайнай паліцыі, бо трэба за арміяй безработных сачыць, бо безработныя—гэта небяспечны матар'ял! А адну і другую армію трэба аплаціць з дзяржаўных грошы. На пракармленьне безработных урад выдае болей як 10 мільёнаў зл. у месяц з дзяржаўных грошай! А на пракармленьне ўсіх сышчыкаў мы і ня ведаем сколькі.

Гаворачы аб безрабоціцы, трэба глянуць на прычыны гэтай безрабоціцы. Вось жа першай прычынай, як мы ўжо ўспаміналі, ёсьць абядненьне нашае вёскі. А як вёска бедная, то няма каму купляць фабрычных тавараў. Значыць, на ўнутраных рынках у Польшчы таварам ходу няма. Няма таксама ходу і заграніцай: раз—што тавары польскія дарагія, а другое—што яны на Эўрапэйскім рынку ня могуць выдзержаць канкурэнцыі з лепшымі нямецкімі ды чэскімі таварамі. Значыць, на захад польскія тавары ня ідуць. Астаецца ўсход. Саветы хацелі-б браць польскую мануфактуру, але як на бяду, яны бедныя і хочуць браць на павер. *) Затым тыя ўсходнія рынкі, на якія ішлі тавары беластоцкіх і лодзінскіх фабрык перад вайною — цяпер для гэтых фабрык бадай зачынены. А з зачыненьнем рынкаў, зачыняюцца і фабрыкі (бо не адна фабрыка ня будзе вырабляць тавару, каб ён гніў на складзе), а з зачыняньнем фабрык павя-

*) Фінансавае палажэньне Саветау цяпер таксама цяжкое. У іх вялікія выдаткі на чыноунікау і агітацыю і таксама увоз большы за вываз, дык за 1925 год замкнулі гандлёвы білянс з 144 мільенамі залатых рублеу дэфіцыту. Значыць, гэтулькі было болей увозу за вываз і гэтулькі уцякло за граніцу залатых рублеу за прывезены тавар. Не дарма Чычэрын стараўся у Эуропе капіталу.

---

# Цярністы шлях беларускай школы у Польшчы.

Прапазыцыя паслоў Беларускага Клюбу ў справе прасьледаваньня праз польскі ўрад беларускага школьніцтва і нарушэньня праз гэта Трактату падпісанага ў Версалі ў 1919 г. між Саюзнымі Дзяржавамі і Польшчай, а так-жа арт. VII Мірнага Дагавору між Польшчай і Расеяй, падпісанага ў Рызе 18-га сакавіка 1921 года.

(Працяг).

### В. Прыватнае школьніцтва.

Не гаворачы ўжо нічога аб урадовых пачатковых беларускіх школах, якія ўрад, на моцы языковае ўставы 31.VII. 1925 г., мусіў ужо ў гэтым годзе адчыніць у ліку каля 412, бо насяленьне зложыла на іх вымаганыя дэклярацыі школьныя,—школьныя ўлады, улады паліцэйскія нішчаць у зародку ўсякія спробы адчыніць беларускую прыватную школу, утрымовываную прыватнымі коштамі бяз ніякае дапамогі з боку ўлады.

Яшчэ залетась Т-ва Беларускае школы ў Радашкавічах падало прашэньне Школьнаму Інспэктару ў Слоніме аб дазволе адчыніць 9 прыватных беларускіх школаў.

Першыя з гэтых прашэньняў высланы ў лістападзе 1924 г. Многа прайшло часу ад гэтае даты, пачаўся школьны год, але ніякага адказу ад школьнае ўлады не атрымана. Затое адміністрацыя і паліцыя, да якой, рэч зразумелая, не зьвярталіся ў справе беларускага школьніцтва, дала адказ, але дужа сумны. Паліцыя арыштавала беларускіх вучыцеляк: Надзею Капітанчык—са школы ў вёсцы Пруды і Мар'ю Белаусаву—са школы ў вёсцы Лядзіны за непашанаваньне прыказаў паліцыі і падбураньня насяленьня да жаданьня беларускае школы. Справы іншых вучыцялёў я вёсак: Савічы, М-Угрын, Чэмары, Сеткаўшчына, Рудаўка, Задвор'е праз Слонімскага старасту былі перасланыя да Міравога судзьдзі ў Дэрэчыне з жаданьнем пакараньня іх. Міравы судзьдзя засудзіў кажнага з вучыцялёў і асоб, якія дамагаліся беларускае школы на штраф 55 зл. з заменай на арышт.

Сёлета ў ліпні, жніўні і верасьні Т-ва Беларускае школы ў Радашкавічах падало новыя прашэньні школьнаму інспэктару ў Слоніме аб дазволе адчыніць прыватныя беларускія школы ў вёсках: Чэмары, Савічы, Пруды, Лядзіны, М.-Угрынь, Сеткаўшчына, Рудаўка, Задвор'е, Грыбова, Хвіневічы, Сліжа-Пяскова, Скіпаравічы і Азарычы, а так-жа інспэктару школьнаму ў Валожыне на школу ў вёсцы Заарудзе.

На гэтыя просьбы Беластоцкае Куратарыум не пафатыгавалася даць адказу, лёс-жа вышэйпаданых школ і іх вучыцялёў быў гэткі:

1) Школа ў вёсцы Чэмары, Чэмарскае гміны: Прашэньне аб дазволе зложана 24 лістапада № 110 у 1924 годзе; патрэбныя даныя і дакумэнты залучаны, вучыцелем, маючым кваліфікацыі, быў Максім Бурсэвіч. Вучняў больш 50. Вучэньне пачалося 25.XI. 24 г. Не даючы канцэсіі, а так-жа ніякага адказу, інспэктар і староства пры помачы паліцыі школу гэту зачыняюць, дзяцей разганяюць, а вучыцеля арыштовываюць і праз некалькі дзён трымаюць у турме. Пасьля абвінавачываюць з арт. 138 і 290 К. К. Суд у Слоніме засудзіў яго на тыдзень турмы і 5 зл. штрафу. Школа зачынена 19.II. 1925 г.

2) Прыватная школа ў вёсцы Савічы, Дэрэчынскае гміны. Прашэньне на канцэсію падана 12 сьнежня 1924 г. № 112, патрэбныя даныя і дакумэнты залучаны, вучыцелем, маючм кваліфікацыі, быў Ян Дожын. Вучняў да 45. Навука распачалася 20.X. 24 г. І гэта школа зачынена праз уладу ў сакавіку 1925 г.

3) Школа ў вёсцы Пруды, гм. Дэрэўня: Прашэньне на канцэсію падана 12 студня 1924 г. № 115, усе даныя і дакуманты залучаны, вучыцелькай, маючай кваліфікацыі, была Надзея Капітанчык; вучняў 48. Навука распачалася ў лістападзе 1924 г. Школа, бяз даньня адказу на прашэньне, зачынена 13.II. 1925 г. Вучыцельку староста пасадзіў у турму ў Слоніме, дзе прасядзела 7 дней да суду—ад 13 да 20 лютага. Суд у Слоніме 25 лютага засудзіў яе на кару 113 злотых.

4) Школа ў вёсцы Малы-Угрынь, Дэрэчынскае гміны: Прашэньне на канцэсію падана 17.I. 1925 г. № 2, усе даныя і дакумэнты залучаны, вучыцелем быў Кузьма Ломшык; вучняў 45. Вучэньне вялося ад 10.XI. 1924 г. праз 3 месяцы. Зачынена школа 15 студня 1926 г. Вучыцеля суд у Дэрэчыне засудзіў на кару 55 зл. і 10 дзён турмы. Апроч яго пацягнулі да адказнасьці судовай і паўнамоцніка тэй вёскі за гэтую школу Данілу Дожына,—і яго засудзілі на такую-самую кару, а так-жа і другога паўнамоцніка школьнага гэтай вёскі Захара Пачобута — па 25 зл. і тыдзень турмы. Зложана апэляцыя ў акружны суд.

5) Школа ў вёсцы Лядзіны, гм. Роготна: Прашэньне на канцэсію з патрэбнымі залучнікамі падана 30.I. 1925 г. № 5; вучыцелькай была асоба маючая кваліфікацыі Мар'я Белаусава, вучняў 55. Вучэньне вялося ад 10.XI. 1924 г., а ўзапраўднасьці ад 25.X. 1924 г., праз 4 месяцы. Замкнута школа праз паліцыю 24.II. 1925 г. Вучыцельку абвінавацілі ў процідзяржаўнай агітацыі і пратрымалі ў турме 7 месяцаў, ад лютага да верасьня 1926 г., а акружны суд у Слоніме засудзіў на 20 зл. кары. Апрача яе засудзіў яшчэ сялян гэтае вёскі: Ант. Марчука на 15 зл., Андрэя Зэгаліка на 15 зл., Антаніву Курман на 15 зл., Аўдоцію Юргель і Н. Лабор на 15 зл. і Тамаша Курман на 30 зл. Знача: вучыцелька за навучаньне дзяцей беларускіх пазбаўлена вольнасьці праз 7 месяцаў (і 20 зл. кары), а бацькі дзяцей за тое, што хацелі мець школу ў роднай мове, пакараны штрафам. Дзе-ж мера, мэта і сэнс кары за навуку? Праўда, гэтак-жа і расейскі царат паступаў. Вучыцелька вышла з васторгу фізычна хворая.

лічваецца лічба безработных, а з павялічэньнем лічбы безработных, павялічаюцца расходы дзяржавы, а з павялічэньнем дзяржаўных расходаў, трэба павялічыць падаткі — і гэтак далей у тэй даўнай фінансавай крутусе, якая цяпер адбываецца ў Польшчы! *)

Апроч гэтага ў Польшч вязуць з заграніцы многа тавараў, часам зусім лішніх і непатрэбных для працоўнага люду. А за гэтыя тавары трэба плаціць моцнымі заграпічнымі валютамі! Такім способам ствараецца ў Польшчы пасыўны гандлёвы білянс. А пасыўнага гандлёвага білянсу (вышэйшы ўвоз за вываз) ніякая дзяржава доўга вытрымаць ня можа і ў канцы банкрутуе, бо ўсе грошы ўцякуць за граніцу. Фінансавае становішча дзяржавы тагды добрае, калі болей вывозіцца тавараў, чым увозіцца, а прынамсі калі стольні сама вывозіцца, сколькі прывозіцца.

А што вязьлі ў Польшч? Апроч рэчаў карысных, як: кнігі, навуковыя прылады, машыны і розныя патрэбныя рэчы, вязуць таксама рэчы без якіх можна было-б абыйсьціся. Так напр. гарэхі, памаранчы, сушаныя яблыкі, сьлівы і грушы, фігі, дактылі і т. п. Адных гарэхаў і памаранчаў прывязьлі ў 1924 годзе і ў І-ай палавіне 1925 году блізка на 32 мільёны зл. Вот затым польскія фінансы, маючы заўсёды пасыўны гандлёвы білянс, прышлі ў канцы да такой руіны.

*) Плацяць з дзяржаунага скарбу безработным т о л ь к і па гарадах, а безработным па вёсках, хоць іх лік не маленькі, не плацяць ні грошыка. А грошы бяруць перадусім з вёскі і сялян!

(Далей будзе).

# З Радавай Беларусі.

## Супярэчнасьць між сялянамі і фабрычнымі рабочымі.

На засяданьні пашыранага Пленуму Бел. Камуністычнай партыі ў Менску на тэму адносін між сялянствам і рабочымі Камуніст. Бэнэк між іншым сказаў вось што:

... У адным з нумароў „Звезды" мы чытаем наконт узаемаадносін рабочае клясы з сялянствам: „У бягучы момант нашага будаўніцтва мы павінны наглядзець, ці могуць у сапраўднасьці нарастаць супярэчнасьці між рабочаю клясаю і сялянствам? Адказ: — не, гэтыя супярэчнасьці ня існуюць".

Сьмешна казаць аб тым, ці існуюць супярэчнасьці між рабочаю клясаю і сялянствам; зразумела, існуюць. Дзеля таго мы і кажам, што трэба весьці такую правільную палітыку, трэба наладзіць такі парадак, пры якім можна кіраваць сялянствам і разам з гэтым будаваць сацыялізм. Патрэбен саюз. Раз патрэбен саюз, значыць ёсьць супярэчнасьці. Пра гэта сказала партыйная канфэрэнцыя і з гэтым нельга спрачацца. І калі пасьля гэтага член партыі чытае вось такое ў кіруючым органе „Звезда", дык у яго ўтвараецца проста неразуменьне. Да дакумэнтаў, якія зьяўляюцца ў друку, якія чытаюць тысячы членаў партыі, дзесяткі тысяч сялян, нельга так адносіцца.

(„Сав Бел." № 7. 1926).

## Беларускі славар.

Вучыцель С. Мурашка сабраў тысячу беларускіх слоў, якія будуць выкарыстаны пры састаўленьні славара. Славарная камісія выступіла з захадамі перад прэзыдыумам Інбелкульта аб выдачы Мурашцы награды за гэту працу.

## Біяграфіі беларускіх рэвалюцыянэраў.

Гісторыка-рэвалюцыйнай сэкцыяй выпрацаваны плян выданьня зборніка з біяграфічным матэр'ялам беларускіх рэвалюцыянэраў. Намечана выдаць некалькі тамоў такіх біяграфій.

## Беларускія этнаграфічныя сборнікі.

Акадэмія навук СССР перадае Інбелкульту для друку 5 беларускіх этнаграфічных зборнікаў, сабраных этнографам Еромаяскім у працягу мнагалетняе працы.

## Вызначэньне жыдом зямельнага фонду.

У акругах Беларусі пачата праца дзеля вызначэньня зямельнага фонду для працуючых жыдоў. У гэтым годзе назначана выдаць 6000 дзесяцін.

# Беларусы у Празе Чэскай.

Беларускія сацыялісты-рэвалюцыянэры ў Празе выдалі № 2 свайго „Бюлетэню", якога цікавы зьмест агулам гэтак прэдстаўляецца:

Пад знакам „беларусізацыі" у БССР. Арганізацыя працоўнага сялянства. З прыгоды новай аграрнай праграмы аўстрыйскай сацыял-дэмакратыі. Тэрар у Радавай Беларусі. Міжнародны рэвалюцыйны рух. Міжнародная Сацыялістычная Канфэрэнцыя ў Парыжы. Мэмарандум Заграпічнай Групы БПСР. Жорсткія прасьледаваньні сацыялістаў і анархістаў у СССР. Агляд прэсы. Добры пачатак! Ці існуе Беларуская Сацыял Дэмакратычная Партыя? „Пралетарызацыя вёскі" у Радавай Беларусі. Як адбываюцца перавыбары сельскіх радаў. Вынікі IX зьезду КП(б)Б. Скачы ўража, як пан кажа. Сьледам РКП. З жыцьця беларускае эміграцыі. Рэарганізацыя Беларускае Рады ў Празе.

# З жыцьця Украінскага.

## Музэй Вызвольнае Барацьбы Украіны.

У Празе Чэскай, з ініцыятывы Украінскага Унів., сарганізаваўся Музэй Вызвольнае Барацьбы Украіны. Мэта музэю—зьбіраньне і перахаваньне памятак, дакумэнтаў, словам, усялякіх рэчаў, што маюць беспасярэдні, або пасярэдні звязак з вызволнаю барацьбою Украіны, а асабліва сьветавай вайны, рэвалюцыі, ды нацыянальнай вайны за незалежнасьць Украіны. Месьціцца ён (Лозенска, ж. 11 Прага III). Каб пазнаёміць шырэйшае грамадзянства з працай музэю выдаюцца непэрыядычныя „Вісти".

*Сяляне! Чытайце і пашырайце сваю газэту „Сялянскую Ніву"!*

# З Польшчы.

## Бюджэт на 1926 год.

Польскі мін. фінансаў падаў праект бюджэту на 1926 год, які раўняецца адналу мільярду семсот мільёнаў злотых.

Такім чынам рэдукцыю ўзяў д'ябал. Спярша Польшч хацела абмежаваць бюджэт да 400 мільёнаў зл., бо столькі спадзяюцца мець даходу.

Але, хіба пад націскам пэпэсаўскіх міністраў, якія выступаюць проці рэдукцыі, бюджэт устанавілі большы. Палякі ўсё-ж такі спадзяюцца мець даходу 1 мільярд 450 мільёнаў злотых. Такім чынам недабор выносе 250 мільёнаў злотых. У запраўднасьці недабор будзе куды большы з прычыны спадку валюты і — як кажуць — нерэальнасьці даходаў.

## Ксяндза сасудзілі на паўтара года.

На выезднай сэсіі Віленскі Акружны Суд у Сьвянцянах дня 8 студня г. г. засудзіў кс. В. Бабінаса, Прыязьненскага пробашча на $1\frac{1}{2}$ г. цяжкай турмы. Каталіцкага Ксяндза абвінавачвалі ў арганізаваньні літоўскіх шаўлісаў у 1920 і 1921 годзе. Узяўшы ад яго 300 злот. каўцыі, суд выпусьціў яго на волю да разгляду справы праз апэляцыйны суд.

# З Заграніцы.

## РАДАВАЯ УКРАІНА.

### Жыдоўская калёнізацыя.

У Кіеві нядаўна закончылася IV жыдоўская безпартыйная канфэрэнцыя. Вынікі гэтае канфэрэнцыі кінулі горстку сьвятла на тое, што робіцца з жыдоўскай калёнізацыяй на ўкраінскіх землях.

З адчытанай там статыстыкі бачым, што ў працягу апошніх 5 гадоў на Украіне скалёнізавана 170.000 дзесяцін паміж жыдоў, якія сабраліся туды са ўсіх канцоў б. Расеі. Толькі ў Екацерынаслаўскай ды Хэрсонскай губэрнях асела 36 тысячоў жыдоў на 100 тыс. дзесяцінах украінскае зямлі, рэшта прыпадае на іншыя губэрні.

Трэба памятаць, што калёнізацыя яшчэ ня скончана, а жыдоў у Радавым Саюзе—многа.

## ЧЭХАСЛАВАКІЯ.

### Чэскія сяляне ў Францыю.

У Францыі наследкам вайны асталося больш як 30.000 гаспадарак без гаспадароў, дык вядуцца цяпер перагаворы аб перасяленьні туды чэхаў на гэтыя гаспадаркі.

### VIII зьлёт Сакалоў у Празе

У летку г. г. адбудзецца ў Празе VIII усесьвятовы Сакольскі зьлёт. Чакаюць гасьцей да $^{3}/_{4}$ мільёна. Дагэтуль запісалася 85.881 сакалоў хлопцаў і дзяўчат толькі з аднэй Чэхаславакіі, але іх будзе яшчэ больш. Места Прага асыгнавала пакуль 7.200.000 карон на ўпарадкаваньне камунікацыі (трамваяў, аўтабусаў і г. д.) да места злёту і 560.000 карон на куплю саломы для спаньня вясковым саколах па школах. З ракі, з мосту на

6) Школа ў вёсцы Статкоўшчына, гм. Роготна: Прашэньне на канцэсію з залучнікамі падава 4.II. 1925 г. № 118. Вучыцелем быў Канстанты Касьцюшка; вучняў больш як 42. Школа існавала са два тыдні. Зачынена праз паліцыю. Вучыцель сядзеў праз 5 дзён, а надалей аддавы пад надзор паліцыі. Усе кніжкі і газэты беларускія ад яго забралі. Суд у Здзенцёле, Слонімскага пав. 2.IV. 1925 г. засудзіў яго з арт. 290 К. К. на 100 зл. кары, або 1 месяц вастрогу. Апрача яго, гаспадара, дзе зьмяшчалася школа, Рамана Трахімовіча, засудзілі на такую самую кару. Зложана апэляцыя ў Гарадзенскі Акр. Суд.

7) Школа ў вёсцы Рудаўка, Міжэвіцкае гміны: Прашэньне на канцэсію падана 9.II. 1925 г. № 11 з усімі залучнікамі. Вучыцелькай была выкваліфікаваная ў сваей прафэсыі Сьцепаніда Таўлай, якая скончыла так-жа і курсы ў Кракаве і ёсьць вучыцелькай з доўгай практыкай, аднак школа праіснавала ня доўга, змушаная была зачыніцца, з прычыны пагрозаў з боку ўлады, ня даўшай канцэсыі. Вучняў было 48.

8) Школа ў вёсцы Задвор'е, гм. Казлоўшчына: Прашэньне на канцэсію падана 9.II. 1925 г. № 12 з усімі залучнікамі. Вучыцелем быў Александар Тарасюк, маючы кваліфікацыі добрага народнага пэдагога. Школа існавала ад 27.I. да 20.II. 1925 г. Вучняў было 36. Школу гэтую паліцыя зачыніла і на вучыцеля сьпісала пратакол. Солтыса гэтай вёскі Базыля Сіняка за паддзержку гэтае школы, пасадзілі ў вастрог і будзець яго судзіць Суд Акружны ў Горадні з арт. 639 ч. II К. К. за тое, што не данёс уладзе аб гэтай школе.

9) Школа ў вёсцы Грабове, гм. Дэрэчын: Прашэньне на канцэсію з залучнікамі было падана 23 ліпня 1925 г. Вучыцелем быў Стафан Боцько. Вучняў 47. Існавала коратка; так-сама была зачынена.

10) Школа ў вёсцы Хіневічы, Папаўскае гміны: Прашэньне на канцэсію падана 23.VII. 1925 г. № 40/Р. Вучыцелькай была Вера Котрач, маючая кваліфікацыі. Вучняў было 52. Вучэньне распачалося ў сьнежні 1924 г. Школа існавала праз 4 блізка месяцы. Паліцыя яе зачыніла 12.III. Бо ў гэтым дню суд ў Здзенцёле, Слонімскага пав. вучыцельку засудзіў з арт. 290 К. К. на 50 зл. кары з заменай на 2 тыдні арышту і 5 зл. судовае аплаты. Вучыцелька будучы ў вастрозе, падупала на здароўі, а пасьля сусім захварэла і ляжала праз некалькі тыдняў, так што тэрмін апэляцыі спушчаны і ўжо мусіць, або плаціць кару — а яна бедная, або сядзець у вастрозе праз 2 тыдні і заплаціць кошты судовыя, і ўсё гэта за навуку ў беларускай школе.

11) Школа ў вёсцы Азарычы, гм. Дэрэўня: Прашэньне на канцэсію падана 23.VII. 1925 г. № 41/Р. Вучыцелькай была выкваліфікаваная Мар'я Шундрык. Вучняў было больш 40. Школа зачынена 12.III. б. г. Лёс вучыцелькі такі-самы. Была арыштавана, сядзела праз некалькі дзён у вастрозе, пасьля ўзята пад надзор паліцыі, дзеля чаго змушана прыходзіць праз дзень на пастарунак за 12 клм. Суд так-сама пакараў яе на 55 зл.

12) Школа ў вёсцы Скіпаравічы, Казлоўскае гм.: Прашэньне на канцэсію падава 23.VII. 1925 г. Вучыцелем быў Ян Гародка. Вучняў было 45. Школа існавала ня доўга, бо была зачынена праз уладу.

13) Школа ў вёсцы Сліжы-Пясковыя, Курыловіцкае гм. Прашэньне на канцэсію падана 23.VII. 1925 г. № 43/Р. Вучыцелем быў Сэрафім Татарын. Школа зачынена праз уладу.

Трэба адзначыць, што дасюль абсалютна ніякага адказу аб канцэсіях для гэтых прыватных школаў не дае ані куратарыум, ані інспэктар школьны, як-бы знарок, адцягваючы і чакаючы, каб школьны год ізноў так-сабе прайшоў і дзеці ня вучыліся ў беларускай школе, а бацькі былі штрафаванымі за непасыланьне дзяцей у школу наагул.

Такі стан рэчаў ня раз змушаў старшыню нашага Т-ва сэн. Уласава да інтэрвэнцыі, але гэта нічога не памагала. Быў ён у п. Куратара Беластоцкага Школьнага Вокругу і сгуль прывёз дужа характэрную заяву заступніка куратара (сам куратар тады быў выехаўшы), што Куратарыум нічога зусім ня ведала, што дзеілася з нашымі прыватнымі школамі і вучыцелямі ў Слонімскім павеце і, што, якобы, дзеля гэтага Міністар выслаў спэцыяльнага ўрадніка, які меў абсьледаваць усё гэта на мейсцы і што ў будучым Куратарыум ня будзе рабіць перашкодаў ў выдаваньні канцэсыяў на беларускія прыватныя школы і г. д. А тым часам школьны год мінае і час уцякае.

Т-ва Бел. Школы ў Радашкавічах падало так-жа 14 верасьня б. г. № 45 самому пану міністру асьветы, гэтак сама Беластоцкаму куратару жалабы на гэтыя ўсе зьдзекі над беларускім школьніцтвам, на ўсялякія перашкоды, стаўленыя з боку адміністрацыі і ніжшых чыноўнікаў усялякім асьветным пачынаньням і арганізацыі беларускага школьніцтва — узноў маўчаньне — хай сабе школьны год уцякае.

Дык-жа гэтыя яскравыя факты прасьледаваньня беларускага школьніцтва, яўна і востра пярэчаць заяве Мін. Асьветы ў адказ на інтэрпэляцыю беларускага пасла Рагулі 27 лютага 1925 г. № 1283 (O. Prez.), якая кажа, што прасьледаваньня беларускага школьніцтва няма, што ня было здарэньня, каб Куратарыум адказала канцэсіі на школу з беларускай мовай, што ніякія беларускія арганізацыі не стараліся дасюль аб адчыненьні гэткіх школаў і што дзеля гэтага няма патрэбы да рэвізіі палітыкі нацыянальнага ўціску, бо сапраўды ўціску такога няма, а тым больш палітыкі ідучай у гэтым кірунку. Гэты адказ падпісаў кіраўнік міністэрства І. Завадзкі.

(Далей будзе).

